—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
28
ЖНІЎНЯ
1992 г.
№ 35 (3653)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





Сёлета святкуецца тысячагоддзе хрысціянства на Беларусі. Не праваслаўя, як сцвярджаецца ў некаторых тэндэнцыйных выданнях, а менавіта хрысціянства. Бо ў 992 годзе ў Хрыстовай Царкве яшчэ не было падзелу на Усход і Захад, на праваслаўе і каталіцызм. Гэта свята ўсіх хрысціян нашай краіны.

Арцыбіскуп Казімір Свёнтак, вышэйшы каталіцкі іерарх Беларусі. Ягонае слова для падначаленых, клеру і вернікаў—закон, ягоныя ўчынкі—прыклад. Ягоная душпастарская дзейнасць спрыяе нацыянальнаму Адраджэнню Беларусі. Арцыбіскуп звяртаецца да Бога з малітваю на беларускай мове. Так было на сёлетнім свяце Божага Цела і на ўрачыстым набажэнстве ў гонар святога Роха. Ужо адно гэта робіць нікчэмнай і бяссэнсавай дыскусію аб тым, якой мовай павінны карыстацца на Беларусі хрысціянскія святары. Арцыбіскуп памятае Хрыстовы запавет: гнаць з Храма гандляроў. Ён забараніў «упрыгожваць» касцёлы дзяржаўнай атрыбутыкай (сцягамі, гербамі, партрэтамі прэзідэнта) суседняй дзяржавы. Прынцыповасць Казіміра Свёнтака ў справе веры выклікае незадаволенасць у тых, хто бачыць у рэлігіі працяг палітыкі, хто хацеў бы ператварыць каталіцкі храм у польскую краму. Але арцыбіскуп няўхільна трымаецца пастулата «касцёл па-за палітыкай». Пажадаем жа яму ў год вялікага свята ўсіх хрысціян Беларусі здароўя і доўгіх гадоў.

Згадкі пра свята ў гонар святога Роха ля касцёла Святой Тройцы, што на Залатой Горцы, чытайце на 2-й старонцы.

# Да ведама і да скарыстання

Выява герба Рэспублікі Беларусь, зацверджаная ў канцы мінулага года Вярхоўным Саветам, ужо з'явілася на шыльдах некаторых міністэрстваў, на машынах аўтаінспекцыі, на беларускіх «рублях». У хуткім часе «Пагоня» ўпрыгожыць фасад будынка парламента.

Здавалася б, з гэтага вынікае, што пытанне аб тым, якую версію «Пагоні» лічыць афіцыйным сімвалам рэспублікі, закрыта. Пры ўсёй спрэчнасці асобных элементаў нашага дзяржаўнага герба ён увогуле прыхільна прыняты грамадствам, і людзі паціху прызвычайваюцца да новага (старадаўняга) сімвала.

Аднак у рэдакцыю прыходзяць лісты, аўтары якіх лічаць, што кропку ставіць рана і што афіцыйная выява «Пагоні» патрабуе ўдасканальвання. Спадар Міхась Вераціла з Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці пытаецца: «Навошта на шчыце беларускай «Пагоні» праваслаўны патрыяршы крыж?» М. Вераціла ўдакладняе, што васьміканцовы крыж праваслаўнага ўзору на гербе Віленскай губерні быў «высочайше утвержден» 5 ліпеня 1878 г. з мэтай давесці, што Беларусь (Літва) — «исконно-русская (у сэнсе «маскоўская») зямля». А нам цяпер гэта навошта? Няўжо спрацоўвае старая імперская логіка: «Каму б ні аддаваць набытак беларускай гісторыі (хоць палякам), абы не беларусам». Не думаю, каб Камісія Вярхоўнага Савета, што рэкамендавала зацвердзіць менавіта гэтую «Пагоню», кіравалася імперскай логікай і прамаскоўскімі настроямі. Пазіцыю камісіі выказаў на старонках «ЛіМа» (№ 8, 21 лютага) у даволі грунтоўным артыкуле Алег Трусаў. Нельга абвінаваціць таксама і мастакоў, што распрацоўвалі герб. Іншая справа — мастакоўскі суб'ектывізм, але гэта тое, што заўжды ўласціва творчым людзям. Герб можа не задавальняць у некаторых дэталях, але добра, што ён увогуле ёсць... Бо жорсткае супрацьстаянне любым праявам беларушчыны ў нашай рэспубліцы на ўсіх узроўнях улады па-ранейшаму моцнае. Мяркую па тым, як марудна ідзе замена бэзэсэраўскіх сімвалаў на беларускія. Мы дагэтуль карыстаемся бэзэсэраўскім гімнам, у дні дзяржаўных святаў на вуліцах, як калісьці, мноства бальшавіцкага кумача, а нацыянальныя сцягі — тольні сям-там... Дагэтуль не наладжана масавая вытворчасць бел-чырвона-белых сцягоў. Пракамуністычная прэса («Мы и время») па-ранейшаму беспакарана лье бруд на герб і сцяг Рэспублікі Беларусь. Многія людзі пры ўладзе маюць настальгію па СССР, чырвоным сцягу і гербе, што нагадвае качан капусты. Ім вельмі хацелася б, каб замест «Пагоні» па-ранейшаму быў герб БССР, а ў грамадстве і ў Вярхоўным Савеце вяліся безвыніковыя спрэчкі аб крыжы на тарчы вершніка, аб даўжыні ягоных астрогаў, форме шалома і гэтак далей. Каб у нас было, як у Расіі, дзе дагэтуль юрыдычна існуе герб РСФСР, а парламентарыі ніяк не могуць дамовіцца наконт таго, якім павінен быць расійскі двухгаловы арол. Так і жывуць: пад нацыянальным сцягам, але пры бальшавіцкім гербе.

Сёння мы друкуем лісты нашых чытачоў спадароў Ю. Копціка і В. Кошалева. Іх меркаванні, якім павінен быць герб Рэспублікі Беларусь, могуць быць прыняты да ведама, а можа, і скарыстаны тымі, хто сёння займаецца далейшай распрацоўкай дзяржаўнай атрыбутыкі нашай краіны. Думаю, што пры распрацоўцы эмблем войска і флоту, ваеннай і грамадзянскай авіяцыі, армейскай і міліцэйскай уніформы, ордэнаў і медалёў трэба браць за аснову існуючы эталон герба, але ствараць новыя, адпаведаючыя кожнаму асобнаму выпадку выяўленчыя версіі «срэбнага вершніка на белым кані».

П. ВАСІЛЕЎСКІ.

# КАМУСЬЦІ ТРЭБА ГЭТА РАБІЦЬ...

З нашым гербам адбылася зараз тая ж гісторыя, як некалі з найменнем Францішка Скарыны. Сярод соцень аўтэнтычных абсалютна верагодных дакументаў, напісаных і падпісаных самім Скарынам, дзе ён называе сябе сваім прыродным імем, была адшукана нейкая папера — пераклад з грэцкай мовы, — дзе словы «вучоны муж» перад Скарынавым прозвішчам былі перакладзены памылкова (а дакладней — не былі перакладзены наогул, а былі проста спісаны як «Георгій»). На падставе гэткай драбязы, несвядомай містыфікацыі невядомага перакладчыка-перапісчыка на працягу не аднаго дзесяцігоддзя вялася зацятая кампанія фальсіфікацыі неабвержнага факта, што Францішак Скарына — гэта Францішак Скарына.

Нешта падобнае адбываецца і з нашым гербам. З тысяч выяў Пагоні з класічным простым шасцікутным крыжам (Ярылавым знакам) на тарчы вершніка была адшукана з надмагільнага каменя Ягайлы ў Вавельскім замку, дзе рамёны (плечы) крыжа рознай даўжыні (латарынгскі альбо патрыяршы варыянт), што робіць яго выяву падобнай да крыжа святой Ефрасінні Полацкай, набліжае яго да хрысціянскай (праваслаўнай і уніяцкай) традыцыі. Гэта, можа, і добра. Але ці патрэбна? Беларусь мае быць свецкай дзяржавай. Таму класічны варыянт Ярылавага знака (з роўнымі рамёнамі) з'яўляецца канфесійна нейтральным, і ўжо з гэтага пункту гледжання больш прымальным. Тым болей, што з'яўленне «ненарматыўнай» выявы на саркафагу Ягайлы лагічна вытлумачыць можна, але ці трэба яго кананізаваць? Для палякаў Ягайла быў чужынцам-неафітам, новаахрышчаным паганінам, які да прыняцця імя Уладзіслава нейкі час знаходзіўся ва ўлонні хрысціянства ўсходняга абраду пад імем Якуба. Таму пэўная «карэкцыя» дынастычнага знаку яшчэ раз мела падкрэсліць паслядоўнасць нябожчыка ў яднанні з хрысціянскім светам. Акрамя таго, трэба браць пад увагу, што саркафаг рабілі італьянскія майстры, што, магчыма, Ярылаў знак быў заменены на латарынгскі крыж праз звычайную памылку, дробную для чужынскага (польскага ці італьянскага) вока. Як у гісторыі з імем Скарыны.

На старонках «ЛіМа» вялося абмеркаванне мастацкіх вартасцяў афіцыйнага варыянта герба. Адразу скажу: на мой погляд — графічная распрацоўка герба выдатная; прэтэнзіі да даўжыні астрогаў (шпораў) сур'ёзнымі лічыць нельга. Тым не менш, рызыкую выказаць сентэнцыю на мяжы з банальнасцю: няўвага да «дробязяў» можа зашкодзіць кожнай справе, тым болей той, якая робіцца з найшляхетнейшых пабудак. У дачыненні да нацыянальных святыняў-сімвалаў — кожны дробны недагляд альбо недакладнасць сучаснікаў праз пэўны час будуць разглядацца нашымі гістарычна свядомымі і гуманітарна адукаванымі нашчадкамі як блюзнерская непавага да ўласнай краіны.

На афіцыйным гербе колер тарчы (шчыта), які трымае рыцар, — белы, а крыж — залаты. Гэта вельмі сур'ёзнае парушэнне законаў геральдыкі, якая не дазваляе непасрэднага спалучэння двух металаў: золата і срэбра (жоўтага і белага), бо белы колер з'яўляецца толькі ўмоўным азначэннем срэбра. Але гэта не толькі фармальнае парушэнне. Кожны свядомы беларус, углядаючыся ў абрысы нашага дзяржаўнага герба, песціць надзею, што гэта не канец «истории с флажками», а пачатак, першы этап нашага нацыянальнага і культурнага адраджэння, што выява Малой Пагоні (тарчы вершніка) засвеціць нам неўзабаве з новых гарадскіх гербаў; бліснe, як знак прызнання нашага права «людзьмі звацца», а эмблема міжнародных імпрэзаў, якія, я ў гэта веру, у хуткім часе змогуць адбыцца на зямлі незалежнай Беларусі. Дык няўжо ўсюды будзе тыражавацца сучасны бясколерны геральдычна памылковы варыянт?

На жаль, маюцца яшчэ больш важкія прычыны, якія не дазваляюць зафіксаваць белы колер тарчы як нарматыўны, прынамсі, на ўзроўні нацыянальнай свядомасці. Гэта не толькі таму, што ён не зафіксаваны ў аналах гісторыі, бо там фігуруюць пурпуровы (чырвона-фіялетавы), які часам замяняецца на чырвоны, а таксама — блакітны (сіні). І ніколі — белы. Дарэчы, блакітны колер тарчы нядаўна прыняты як нарматыўны ў Летувіскай рэспубліцы (дзяржаве на Окштах і Жмудзі).

А які колер маем выбраць мы, беларусы?

Шаноўнае спадарства, нам няма з чаго выбіраць! Гісторыя ўжо зрабіла свой выбар. Нашым нацыянальным злучэннем колераў з'яўляецца бел-чырвона-белы сцяг. Бо сцяг — спрошчаны, колеравы запіс герба, яго геральдычная сцэнаграфія. Фарбы нашага сцяга дэшыфруюцца наступным чынам: срэбны (белы) рыцар з **чырвонай** (пурпуровай) тарчай на белым кані — вось колер нашай Пагоні. Раней (у 1812 годзе) існаваў яшчэ адзін (таксама класічны) варыянт нашага сцяга. Ён складаўся з чатырох пасоў: два белыя і два чырвоныя, што азначала: «Срэбны рыцар з чырвоным шчытом на белым кані ў чырвоным полі». Ім карысталіся ўланы Вялікага княства, зараз яго можна ўбачыць у гістарычным музеі Вільні. Такім жа парадкам, заведзеным шмат стагоддзяў таму, дэшыфруюцца і колеры іншых сцягоў. Прыкладам, расійскі бела-блакітна-чырвоны азначае: «Срэбны вершнік (святы Юр) у блакітным плашчы на чырвоным полі»; нямецкі чорна-чырвона-жоўты — «Чорны арол з чырвонаю дзюбаю і кіпцюрамі на залатым фоне», а польскі бела-чырвоны: «Белы арол на чырвоным тле» і г. д. Фон герба суадносіцца з тым пасам сцяга, які знаходзіцца ўнізе, можа колерам сцяга нават не адзначацца, але ў сярэдзіне сцяга колер фону будзе недарэчным. **Тарча вершніка абавязкова мае быць чырвонай.** Бо ў іншым выпадку той малюнак герба, які прыняты за нарматыўны, запатрабуе, каб мы мелі сцяг падобны да польскага альбо парушылі адпаведнасць колераў сцяга малюнку герба. Трэба падкрэсліць, што гэтая супярэчлівасць лёгка можа быць ліквідавана, калі колер тарчы будзе зменены на чырвоны, а каб яна (тарча) не злівалася з фонам, дык павінна мець вузенькую залатую аблямоўку. І толькі.

Не думаю, што дэпутаты нашае найвышэйшае рады зараз знойдуць час і будуць мець жаданне надаць нашаму гербу канчаткова цывілізаванае аблічча. Але камусьці прыйдзецца гэта калі-небудзь рабіць. Бо трэба, каб усё было па-людску, каб не было сорамна перад нашчадкамі за нашу культурную і гістарычную непісьменнасць.

**Віталь КОШАЛЕЎ,**
**дацэнт Мінскага медінстытута,**
**старшыня інстытуцкае суполкі ТБМ.**



**Пры адсутнасці дзяржаўных нарматыўных актаў, якія б вызначалі парадак выкарыстання нацыянальнай сімволікі на шыльдах і дакументах арганізацый і ўстаноў, кожны робіць гэта ў адпаведнасці са сваім густам...**

**Здымкі У. ПАНАДЫ.**

# ДОВАДЫ НЕБЯССПРЭЧНЫЯ

Довады на карысць белага поля шчыта вершніка з выявай залатога крыжа на эталоне дзяржаўнага герба Беларусі, выкладзеныя намеснікам старшыні Камісіі ВС Беларусі па адукацыі, культуры й захаванні гістарычнай спадчыны А. Трусавым у лімаўскім артыкуле «Вяртанне старажытных сімвалаў» безумоўна сур'ёзныя. І разам з тым небясспрэчныя. Да таго ж у гэтых меркаваннях ёсць і пэўная супярэчлівасць. Цытую: «...Нашы продкі... пачынаючы з XVI стагоддзя часам змяшчалі залаты крыж на шчыце сіняга колеру». Праўда, некалькі ніжэй сцвярджаецца, што пра колер шчыта ў старажытных хроніках нічога не сказана, а тым больш няма ні слова пра сіні фон для шчыта. «Таму, каб захаваць гістарычную праўду і колеравую еднасць герба, было вырашана змясціць выяву залатога шасціканцовага крыжа на срэбным (белым) шчыце». Дык дзе ўсё ж такі тут гістарычная праўда? Тым больш, што аўтар вышэй як быццам згаджаецца з тым, што большасць вядомых Камісіі гербаў пабудавана паводле геральдычных законаў, г. зн. сярэбраны вершнік — чырвоны шчыт — белы конь. Ці не адчуваецца тут пэўная «нестыкоўка»?

Можна дапусціць, што тут проста недастаткова ўдала сфармулявана думка шаноўнага аўтара. Але сцвярджэнне, што чырвоны шчыт на чырвоным фоне развальвае колеравую еднасць герба, гучыць недастаткова пераканаўча. Дарэчы, калі быць дакладным, то на фон чырвонага поля прыпадае недзе толькі палова шчыта вершніка, а другая палова шчыта прыпадае на вершніка з канём. Хаця гэта не так ужо і важна.

Сапраўды, у старажытных апісаннях «Пагоні» няма прамых указанняў на колер шчыта — вершнік з мячом на белым кані на чырвоным полі, і ўсё. Але гэта сведчыць хутчэй пра тое, што колер шчыта воіна быў настолькі агульнавядомы й агульнапрызнаны, што не патрабаваў дадатковых апісанняў ды ўказанняў.

Сапраўды, з XVI стагоддзя пачынаюць ужывацца «Пагоні» з рознымі «адхіленнямі» ад прынятага ўзору. Але менавіта да выяў «Пагоні» XVI стагоддзя і пазней трэба ставіцца вельмі і вельмі асцярожна. І рэч не ў тым, што, пачынаючы з XVI стагоддзя, нашы продкі раптоўна адчулі, што чырвоны шчыт вершніка «развальвае колеравую еднасць герба». Проста якраз пачынаючы з XVI стагоддзя ўтвараюцца адно за адным новыя ваяводствы — адміністратыўныя адзінкі, яны прыйшлі на змену архаічнаму адміністратыўнаму дзяленню на землі, што захавалася яшчэ з часоў усобных княстваў. Усе ваяводствы атрымлівалі ўласныя гербы, і, зразумела, усе яны былі з «Пагонямі». Але гэтыя «Пагоні» мелі свае адрозненні, прычым не толькі розны колер поля, але і іншыя дэталі, у тым ліку і шчыт з выявай крыжа (дарэчы, гэтае пытанне ў нас амаль не даследавана).

Гэтыя ваяводскія «Пагоні» мелі самы шырокі ўжытак, і зрэшты дапушчальна, што дзе-ндзе замест нават дзяржаўнага герба ўжываўся ваяводскі. Вось чаму да выяў менавіта гэтага часу трэба ставіцца асабліва ўважліва. Але трэба адрозніваць ваяводскія гербы ад дзяржаўнага, мяняць каторы не было патрэбы: дзяржаўная сімволіка магла мяняць нейкія дэталі ў абрысах і стылістыцы, але колеры дзяржаўнага герба мяняліся надзвычай рэдка, і для гэтага мусілі быць дастаткова важкія падставы. А каб пазбегнуць блытаніны, ці хаця б звесці яе магчымасць да мінімуму варта браць пад увагу галоўным чынам тыя выявы «Пагоні» XVI стагоддзя і пазнейшыя, што ўжываліся або выраблены за межамі ВКЛ: гэта больш надзейныя крыніцы ў тым сэнсе, што за межамі Вялікага княства амаль выключана ўжыванне ваяводскага герба — за межамі ВКЛ ужываўся дзяржаўны герб. У гэтым плане паказальны роспіс плафона Чырвонае Залы ратушы Данцыга (Гданьска) работы Ісаака ван дэн Блоке (? — 1628). Гэта алегарычны роспіс, прысвечаны далучэнню Данцыга да Польшчы. Па краях галоўнага сюжэта сіметрычна размешчаны медальёны ў карункавым абрамленні, з дзяржаўнымі гербамі, што адпавядалі тытулу караля Рэчы Паспалітай: кароль

(Працяг на стар. 12).

**Раман ТАРМОЛА**



## Гэта...

Гэта ўвайшло ў звычай,
Убілі ў нас гэта гады:
«Калі нас Радзіма кліча,
У яе не пытаюць куды!»

Дрэнна,
што гэтак сталася,
Цяпер наракаем на лёс...
Можа,
каб мы пыталіся,
Менш было б матчыных слёз.

●

Палохае харчоў дарагавізна,
Капеечная вартасць слоў,
Спаборніцтва галоў
і галавізны
Сярод былых
і новых мудрацоў.

Патрэбны сёння новыя падрубы
Да нашых словаў
і да нашых спраў,
Каб апякалі і душу
і губы,
Ды каб на веру
іх ніхто не браў...

## Урокі праўды

Нарэшце дажылі да праўды,
Якую мы шукалі
днём з агнём.
Яна цяпер не толькі на парадах!
Ды вось... ізноў папахвае лганнём.

На сцэне часу
праўды гэтай рыскі
Мы пазнаём пакуль яшчэ,
але
Яна падчас,
як дрэнная артыстка,
У залу толькі
гучны голас шле...

●

Чуваць зязюлін толькі голас.
А чайкі бачны крылы толькі.
Ды скажа хто пра аднабокі
І недамаляваны свет.

Заўсёды ўявіш апярэнне
І нечые дачуеш гукі,
Было б у сэрцы азарэнне
Ды ўласнага палёту след.

Між вербаў хлюпае вада.
У сэрцы мора б'е прыбоем.
І песня даўняя жальбою
Заліць гатова мацярык.

Ляжыць малюсенькі каменьчык.
Над ім скала звісае грозна,
Душу ягоную камечыць.
А мне чуваць жывёльны крык.

●

Няма ніякае пагоні,
А ёсць у сэрцы нож...
І быццам бы з туману коннік
Цябе імчыць праз дождж.
Капыціць гразкую дарогу,
Храпе знямоглы конь.
Нашто,
жывы ён,
нежывога
Вязе... Твая далонь
Матляецца, нібыта стрэмя,
І замінае ездаку...
Так і сканае
ціхіх племя
Не на сваім скаку...
Вас не шукаюць сярод мёртвых.
Засведчыць можа Бог,
Што ты... не кожны ты чацвёрты...
Як і не з першых трох.

---

**Анатоль КАЗЛОЎ**

# ЛОГАВА ВАЎКА

**Урывак з аповесці «Адкуль з'яўляюцца яны»**

ГАННА ПОДБЕГАМ йшла па дарозе. Ноч ціснула на плечы жанчыны, гнала яе так, што не патрэбен быў і бізун.

— А божачкі мае, а думалася ж, што светлым дзяньком дайду да Яўхіма. Дык во не, ноч заспела, спаўзла, як чума нябачная. Але не вернешся ўжо ж. Нямнога засталося, зусім нямнога. А калі на тое, дык чаго баяцца? Тут ніякага чалавека не стрэнеш. Адны кажаны ўлетку сноўдаюць, цяперака ж усё ўледзянела, усё марозам схоплена.— Жанчына гаманіла сама сабе не прыцішваючы хады, раз-пораз асцярожна перакладваючы з рукі ў руку ладны вузельчык.

— Упарылася, ой, упарылася. Можа, стаць ды перадыхнуць... Не. Яшчэ захварэю. За плечы хапае сцюдзёным ветрам, во і зляжаш. А мне гэтага ніяк нельга. Лёнік тады зусім і ад мяне, і ад дзяцей адрачэцца. Яму толькі дай зачэпку. Гэта ж трэба так стацца: выракся дзяцей і мяне, чужаніцамі сталі, горш, чым ворагі заклятыя. А ўсё праз Ермачыхіну Таццяну. Каб яна, гадаўка, за вячэрай папярхнулася. Няхай страва колам ў яе горле застране. І чым яна Лёніка прыгаварыла ды прычаравала. Можа, кабыла гэта ласістая, нашэптанага зелля падзупырыла. Таму ён, дурань, так і вар'яцее. Адзін уратунак — Яўхім. Толькі ён зможа яшчэ ў нечым падсабіць. Сіла ў яго вялікая, хоць і перагаворваюцца, што нячыстая. А мне ўжо без розніцы, абы ў сям'і зноўку ўсё ладам ды мірам пайшло. Не так балюча за сябе, як за дзяцей. Віны іхняй ні на макавае зернейка нямашака ў тым, што скруціўся, звярцеўся бацька з Ермаковай поганню. І Наталля, і Антон, як ваўчаняты сталі. Усе вечары па кутках сядзяць, баяцца вочы ад падлогі ўзняць, толькі б не сустрэцца позіркамі з бацькам. Вось як яно здараецца. Нечакана, негадана, а зваліцца бяда-гора на сям'ю і клуміся, ратуйся, шукай выйсця па ўсіх чатырох баках. А ці знойдзеш? Хто яго ведае.

Гэта ж трэба дадумацца, каб са стрэльбай на мяне кінуцца. У грудзі наставіць і гідліва глядзець, як трапечацца маё цела ад жаху. Людцы мае добрыя, што толькі не перадумала, ды не перажыла я за тыя хвіліны, можна сказаць, пад касою Смерці-смертухны. Добра, што хоць дзеці на прыпечку спалі не бачылі бацькавай звярынасці.

А ўсё ж падвучае ды наюджвае Лёніка Ермачыха. Не магу выгаворваць паганае імя Таццяна. Ніколі ў жыцці не змагу я больш палюбіць гэтае слова. У ім адно толькі гора для мяне.

Дзякуй добрым людзям, што падказалі сходзіць да Яўхіма. Як і што б там не было, а дам згоду на ўсё, каб толькі паправіць сям'ю, каб вярнуць былое.

Ганна ішла гэтай дарогаю першы раз. Але ёй здавалася, што ўсё наўкола ведае яна даўным-даўно, ад самага нараджэння. Так даходліва і яскрава, з найдалейшымі падрабязнасцямі апісала і расказала пра дарогу да Яўхіма старая Макрыда. Некалі ў маладосці была яна палюбоўніцаю ведзьмака. Так гаварылі людзі. Толькі праўда гэта ці не — хто яго ведае. Проста так не спытаеш, ад сораму згарыш за бяздумныя словы. Ды і гэтая цікаўнасць можа пайсці не на карысць. Не даведаешся адразу, што ў галаве той Макрыды ці Яўхіма. Макрыда зараз ужо адышла ад нячыстых спраў. Затое вось да Яўхіма дарогу ўказала. «Нічога не бойся,— шамкала бяззубая старая,— раскажы Яўхіму ўсю праўду, нічога не ўтойвай. І самае галоўнае — згаджайся з кожным ягоным словам. Запомні яшчэ адно: вазьмі адбітак Таццянінага следу на зямлі. Крадком як-небудзь прыгледзь і асцярожна здымі разам з зямлёю, толькі не паблытай — абавязкова з левай нагі. Добра гэта робіцца рыдлёўкай. Прынясі след мне, а я ўжо яго ўмацую, каб не рассыпаўся. Думаю — Яўхім абавязкова запатрабуе ў цябе след разлучніцы. Зрабі ўсё, што я сказала, далей ад людскіх вачэй, без сведкаў. Так яно будзе лепш. І без плётак абыдзецца. Ды і пазбавіш сябе ад клопату лішні раз ісці ў глушэчу да Яўхіма. Наконт платы дамовіцеся самі, але на ўсялякі выпадак прыхапі што-небудзь з золата, ну пярсцёнак там які, ці залатую капейчыну. Падкі Яўхім да гэтай жоўтай заразы».

Ганна ўжо які раз за дарогу асцярожна перакладвала з рукі ў руку вузельчык. У ім яна несла, акрамя Таццянінага следу, залатога пярсцёнка, яшчэ двухлітровы гладыш з мёдам, фунты тры масла, ладны кавалак сала і трубку выбеленага палатна — усё на пачастунак ведзьмаку. Мо з-за гэтага ён лепш прыме Ганну, хутчэй і з большым жаданнем дапаможа. Ніколі не думала яна, што наляціць бяда-няшчасце на іхнюю хату, што прыйдзецца ёй душою пакрывіць і бегчы цёмным лесам да страшнага чалавека, прасіць у яго помачы. Думай не думай, але калі гарыць сям'я, калі пакутуе не толькі свая душа, але і душы дзяцей крэўных, то пажар хоць чымсьці, а тушыць трэба. Слёзы не ідуць у помач. Колькі іх выліта не толькі чорнай ноччу, а і днём. Ды ўсё дарэмна. Яны, не раўнуючы, як масла для агню.

«Божа мой, святы і найвышэйшы, чым я цябе ўгнявіла? За якія грахі абрынуў на мяне і маіх дзяцей цяжар нелюбові? Чаму счужэлі мы нашаму кармільцу? Малілася я табе, Госпадзі, дзённа і ношна. На каленцах прасіла пасобіць, пашкадаваць нас, аж не — глухі ты да маіх слоў. Грэшная я, Госпадзі, каму ж гэта ведаць, як не табе. Мо з-за гэтага ты і не чуеш словы мальбы маёй... Засталося адно спадзяванне—Яўхім. Дасць, можа, ён прываротнага зелля, ці нашэпча вадзіцы, ці ветрам прымусіць прыгарнуцца назад мужыка майго. І забудзе ён клятую разлучніцу Таццяну. Я ўжо для гэтага анічагусенькі не пашкадую. Усё аддам, і нацельнае разам — толькі б дабіцца суладдзя».

У галаве ў Ганны ўсё блыталася: думка перабівала думку, усплывалі малюнкі шчаслівага мінулага, але ў іх імгненна ўрываліся лаянкі і кулакі Лёніка.

«Во жытка дык жытка. І звар'яцець так можна. Што са мною робіцца? Хутчэй бы ўжо дайсці. Будзе хоць нешта пэўнае, хоць сякая-такая вядомасць.

Ага, вунь і хата, здаецца, праблісквае на палядку. Дарожка прамёханька да яе выскоквае. Тут Яўхімава логава. Хто ж яшчэ ўшчэміцца ў такую глушэчу, убаку ад усяго людскага: ад іх вушэй і вачэй. Чаго ж так сэрца тахкае ў грудзях. Я ж ужо сказала сама сабе: не страшуся Яўхіма. Гэта, відаць, ад дарогі і перасільнай хады».

Жанчына не заўважыла, як увайшла ў загароджу, як адчыніла весніцы і прайшла ў сенцы. Толькі калі расчыніліся Ганне насустрач дзверы з хаты, яна ачомкалася.

— Заходзь, заходзь, чаго спынілася за парогам? — Яўхім сядзеў за сталом і пераціраў пальцамі нейкія травы. Палахлівы паўзмрок цьмяна асвятляў аблічча старога. Ён падаўся Ганне ўчарнелым каршуном, які гатовы вось-вось узляцець і закрыць раскінутымі крыламі ўвесь прасцяг над галавой.

— Уваходзь жа ты, жанчына! Ці ногі да дошак прымёрзлі? Калі дарогу такую адолела, то зрабі і апошніх некалькі крокаў.

Ганна ўвайшла ў хату.

— Добранькі вам вечар, гаспадар. Няхай здароўя будзе поўныя грудзі...

— Ды ўжо ж будзе. Куды яно дзенецца. Кладзі свой клунак на ўслон і прысаджвайся. Ногі, нябось, гудуць, як сасонкі ад ветру. Гавары без сораму і ўхілкаў, за чым прыйшла. Хоць, папраўдзе, як толькі глянуў у вочы — усё зразумеў і даведаўся. Значыцца, хочаш мужыка дадому і падолу вярнуць. Прыліп да другой, да маладой дзеўкі.

— Так, дзядзечка Яўхім. Праўду, чыстую праўду кажаце. Як у ваду глядзіце. Раней усё было дужа добра. Жылі і сабе, і другім на радасць. Але ж знюхаўся мой Лёнік з Таццянай, дзеўкай з нашага селішча.— Голас у Ганны задрыжэў, як ацяжэлая восеньская павуціна пад скразняком. Ёй так хацелася выплеснуць гнятучы боль з душы гэтаму ўсемагутнаму чалавеку. Толькі ж невядомы ёй раней унутраны голас нашэптваў: «Асцярожней, бабачка, пацярпі, не разгортвай душу і сэрца адразу. Бо, можа, прыйдзецца затым і пашкадаваць...»

І Ганна патроху супакойвалася. Язык, як быццам, нехта прытрымліваў, калі хацелася ёй сказаць пра самае патаемнае: што гатовая яна на ўсё, абы вярнуць Лёніка, толькі б стаў ён ранейшым, такім жа блізкім і дарагім.

— Ты гавары, я слухаю,— крэкнуў Яўхім.

— Раней жа, дзядзечка, мы жыць адзін без аднаго не маглі. І ён, і я з паўслова ведалі, чаго хочацца нам, аб чым думаецца і марыцца. А цяпер жа ваўкі ваўкамі. Глядзіць ён на мяне, як на зямную жабу, ці на балотную вужаку. Хай бы толькі на мяне, але ж і ад дзяцей адцураўся, чужынцамі яны сталі для яго... Цяпер жа ў салодкім сне ўспамінаю ранейшыя гады. Шчасце ж было ў нас неабдымнае, ён без мяне не мог і дня прадыхаць, а ўжо ж я і гадзіначкі не магла асіліць, каб хоць слоўцам не перакінуцца. Толькі адным днём на сенажаці прычаравала Лёніка клятая Ермачыхіна блудніца, паганка растаптаная. Яшчэ ноччу адчула, што нешта здарыцца. Такі сон сасніўся, што ўсё маё цела, да апошняй жылкі ператузаў, перакруціў...

— Ну-ну, раскажы-ка яго,—бліснуў вачыма гарбун.

— Ага. Дык вось як,— Ганна задумалася.— На плошчы вялізнага горада, век такога не бачыла, стаіць незлічоная колькасць людзей. І ўсе яны вясёлыя, радасныя, як на пагулянцы. На якога ні зірні — вочы блішчаць балотным агнём. І не ціха яны стаяць, а нешта крычаць, чагосьці патрабуюць ці то чакаюць. Дробны дождж на галовы сыпле, такі толькі восенню бывае. Але ж ніхто з людзей не разыходзіцца, як смалой прыцягнула іх... І раптам бачу я сама сябе. Уся абадраная і абарваная, скрываўленая, быццам падраненая птушка. А доўгія косы мае, якіх ніколі не насіла, пасмамі звісаюць на плечы, грудзі — перашкаджаюць глядзець. Толькі ж не стаю я разам з усімі, а вядуць мяне хмурыя салдаты праз натоўп, нейкімі доўгімі палкамі папіхаючы. І каб ты ведаў, дзядзечка, як мне ўсё ўстыла, як было цяжка і горка. Гарчэй, чым спелая крушына. Былі там яшчэ і коннікі. Яны шарэнгай стаялі паўз рэчку. Адтуль цягнула нясцерпным холадам, ад чаго імжа здавалася ледзяной. Я не адчувала ног, яны былі босымі і таксама ў крыві. На балконе недалёкага старога дома я бачыла яшчэ дзесяткі тры мужчын. Яны ўсе былі багата апрануты, як паны, і гучна, на ўсю плошчу, рагаталі. Ад іх ганебных галасоў у мяне закладвала вушы, калацілася цела. Самае вялікае жаданне, якое тады я мела, гэта каб хутчэй усё скончылася, правалілася ў прорву. Дзікі натоўп таксама роў, бачачы мяне. Быццам галодныя, звар'яцелыя былі яны. Напіралі на тых людзей, якія, ведучы мяне, ахоўвалі. Шмат было там і жанчын. Вось іх я ненавідзела больш, чым каго. Усе яны шпурлялі ў мяне каменне. Не помню ўжо як, але давялі, нарэшце, мяне да сярэдзіны плошчы. На вялікім узмосце, каля калодкі, з сякерай у руках, стаяў мой Лёнік. Не, ён не спачуваў мне, а смяяўся. Напачатку хацела я прасіць у яго

цам бы зразумелай усім (хто ж сёння не смуткуе пра адсутнасць прыгажосці ў нашым жыцці?), але ў выніку твор мае адчувальныя рысы эклектызму і пазбаўлены аўтарскай індывідуальнасці.

Адразу тры творы А. Літвіноўскага былі ўключаны ў фестывальную праграму. Адзначу тыя, што гучалі ў канцэртах камернай музыкі. «Intavolatura» для гітары сола пабудаваная па прынцыпе «тэзіс — антытэзіс», на суадносінах музыкі старадаўняй арыгінальнай — і сучаснай яе інтэрпрэтацыі. І калі арыгінал увасабляе гармонію, свайго роду «светлы парадак», то аўтарская версія — гэта, натуральна, дысгармонія і разбурэнне. Чаргаванне гэтых «версій-інверсій» атрымалася надта доўгім, зацягнутым, і ўзнікла ўражанне не зусім прадуманай агульнай драматургічнай канцэпцыі сюіты. А вось п'еса А. Літвіноўскага «Вір» для чатырох валторнаў, наадварот, прыемна ўразіла дакладнай драматургічнай пабудовай, цікавай працай з гукам. Поспеху «Віру» не ў малой ступені садзейнічала і размяшчэнне выканаўцаў у розных кутках залы, што надало гучанню своеасаблівы квадрафанічны эфект.

Мэтанакіравана і плённа працуе на ніве беларускага авангарду кампазітар В. Кузняцоў. На фестывалі прагучаў яго новы твор — «Маналог Гамлета» на тэкст з п'есы лідэра сучаснага канцэптуальнага мастацтва У. Сарокіна «Дысмарфаманія». Кампазітара прывабіла магчымасць увасобіць эмацыянальны стан чалавека ў момант найвышэйшага напружання душэўных сіл, перажыванняў, калі на першы план выходзіць падсвядомасць. Вось гэты момант пераходу ад свядомага ў падсвядомае і цікавіў кампазітара. Аўтар засяродзіўся на вельмі сціплых, нават аскетычных сродках: голас і падрыхтаваны раяль, — ніякіх знешніх эфектаў. Але «Маналог Гамлета» ўзрушыў публіку, бо яго вельмі пераканаўча, уражліва перадаючы эмацыянальны стан чалавека неардынарнага, выканаў М. Жылюк. Ён гэтак экспрэсіўна прамаўляў-спяваў ключавое слова маналога — «Страшна!», што сапраўды... рабілася страшна.

«Навела ў трох фрагментах» для гітары, струннага квартэта з керамічнымі звонікамі — так называецца новы твор Я. Паплаўскага. Адметнымі ў ім былі, бадай, керамічныя звонікі, але з-за таго, відаць, што інструмент гэты меў у свой час у асноўным прызначэнне прадмета побыту, дык у гэтым творы халаднаватае, няпэўнае гучанне званочкаў выкарыстоўвалася вельмі скупа, як фарба такога ж няпэўнага тону. Мабыць, калі мастак-кераміст Л. Панамарэнка зробіць звонікі ўсіх 12-ці тонаў, як заказаў кампазітар, можна будзе іх выкарыстоўваць больш разнастайна і з выдумкай. Твор не мае канкрэтнай праграмы. Гэта толькі пачуцці, асацыяцыі, накіды, не звязаныя паміж сабой. Таму часам музыка, складзеная з такіх мікраструктур, набору пэўных прыёмаў, адразу не ўспрымаецца, бо здаецца, ёй бракуе эмацыянальнасці. Але пры ўважлівым праслухоўванні эмоцыі заўважаеш, асабліва ў другім фрагменце «Навелы», а вось не хапае разнастайнасці і выразнасці партыі гітары.

Новы твор С. Бельцюкова «Эскізы» для флейты, трамбона і аргана — трэці ў цыкле, звязаным з экалагічнай тэматыкай. Да таго былі «Музыка для габоя і магнітафоннай стужкі» і «Стронцый-90». Кампазітара хвалюе не толькі стан прыроднага асяроддзя, у якім мы жывём, а перш за ўсё лёс асяроддзя культурнага. Усведамленне неабходнасці яго захавання — не менш важна, чым захаванне навакольнай прыроды. Твор напісаны для трох выканаўцаў, але ўспрымаецца як сімфанічнае палатно, і не толькі з-за насычанага арганнага гучання, але перадусім дзякуючы прафесійнаму ўменню кампазітара працаваць з музычным матэрыялам глыбока і сур'ёзна, дакладна адчуваць драматургію твора.

Сапраўдным трыумфатарам фестывалю можна назваць кампазітара А. Залётнева. Ягоны канцэрт для ўдарных «Крэда» — з'ява неардынарная. Слухачам адкрыўся зусім невядомы А. Залётнеў. У канцэрце тры часткі: «І народжаны», «І ўкрыжаваны», «І ўваскрос». Але нельга сказаць, што твор натхнёны евангельскім сюжэтам. Гэтыя падзагалоўкі больш пазначаюць прынцыпы драматургічнай пабудовы твора і абагульнены яго змест. Знаёмства кампазітара з мастацтвам ансамбля ўдарных інструментаў пад кіраўніцтвам У. Судноўскага дало штуршок для напісання канцэрта: А. Залётнеў першы на Беларусі стварыў для гэтага калектыву буйны твор. Аўтар імкнуўся асобна падкрэсліць каларыт кожнага інструмента, вылучыць яго, зрабіць галоўным, бо ў вялікіх аркестрах ударныя выконваюць у асноўным пабочную ролю. У дадзеным выпадку ўсе яны — салісты, яны іграюць музыку, кожны такт якой нібы пагружае слухача ў мора гукаў, хвалі якога то пяшчотна люляюць, то раптам змыкаюцца над галавой, то зноў выносяць на паверхню. Уражанне сапраўды незвычайнае. Застаецца шчыра парадавацца за гэтую працу А. Залётнева і чакаць новых ягоных арыгінальных знаходак, у прыватнасці, у Канцэрце для аргана і камернага аркестра, задума якога, як я ведаю, ужо выспявае. Пакуль жа кампазітар даў слухачам магчымасць пазнаёміцца са своеасаблівымі эскізамі да яго. У той самай праграме К. Шараў выканаў Тры арганныя кадэнцыі А. Залётнева, якія дазваляюць меркаваць пра будучы твор як пра вострасучасны, з арыгінальнымі кампазітарскімі прыдумкамі, пошукамі новых прыёмаў арганнай ігры, разнастайных эфектаў.

Творчы плён сёлетняга вясновага фестывалю пазначыў чарговую прыступку на шляху да новых вяршыняў маладой беларускай музыкі. Пажадаем жа яе аўтарам набыць свайго ўдзячнага слухача, а слухачу — дачакацца незабыўных імгненняў адкрыцця цікавых і арыгінальных твораў.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ.**

---

магала глыбей успрыняць розумам і сэрцам той свет, людзей, характары, якія ўзніклі пад пёркам маладога драматурга. Слонімская прэм'ера нарадзіла ўпэўненасць, што У. Савуліч прыйшоў у драматургію недарэмна, ад яго можна чакаць новых — сапраўды мастацкіх твораў. Ён умее будаваць дыялог, знаходзіць сакавітыя моўныя характарыстыкі сваіх герояў, і (самае галоўнае і каштоўнае) мае пачуццё тэатра, тэатральнасці. Адсюль — добра выпісаныя ролі, якія абуджаюць акцёрскую фантазію і творчую ініцыятыву (тут я разумею купалаўца Г. Аўсяннікава, але густ і мера ў сцэнічным мастацтве далёка не апошнія).

У пэўным сэнсе здзівіў рэжысёр М. Варвашэвіч. Ён даўно праявіў сябе як майстра сцэнічных палотнаў, любіць і ўмее ставіць шматнаселеныя спектаклі эпічнага гучання. А тут — своеасаблівая сцэнічная показка з невялікай колькасцю дзейных асобаў, у простых, лаканічных дэкарацыях (мастак С. Кірын спавядае прынцып побытавай дакладнасці: будуе звыклы інтэр'ер вітальні звыклай гарадской кватэры). Рэжысёр не імкнуўся «пашырыць» або «паглыбіць» драматычны твор, сваю задачу ён бачыў у іншым — дакладна перакласці на тэатральную мову трагікамедыю У. Савуліча. Вядома, з такой задачай можна і паспрачацца, але тут не выпадае, бо рэжысёр перконвае з дапамогай акцёраў і... гледачоў. Так-так, менавіта з дапамогай гледачоў, якія актыўна, надзвычай эмацыянальна ўспрымаюць спектакль, спрыяюць яго асаблівай атмасферы. (Не магу не падкрэсліць: тэатральнае мастацтва асуджана на імгненнае ўспрыманне ды прызнанне. Калі яго няма — значыць, няма і спектакля, а ёсць нейкі цьмяны прывід... Падумалася, колькі такіх спектакляў-прывідаў прайшло па нашых сцэнах).

Акцёрская партытура спектакля слонімцаў (выкажуся пэўна парадаксальна) — самая распрацаваная і адначасова... слабая. Бальшыні выканаўцаў яшчэ вельмі і вельмі бракуе майстэрства. І ніякай стараннасцю не кампенсуеш відавочныя недахопы. Гэта тычыцца перш за ўсё маладых — Т. Мурашкі (яна выконвае ролю жонкі Козлікава Фяўронні Захараўны, надзвычай ваяўнічай мяшчанкі), І. Янук (дачка Козлікава Лада), У. Навуміка (сяржант Дзюба).

Вопытная актрыса Л. Літвіненка ролю Кацярыны Карпаўны — маці Козлікава, вядзе ў стрыманай, я б сказаў, аскетычнай манеры, але псіхалагічна напоўнена, стварае вобраз жанчыны цяжкога лёсу, якая не згубіла дабрыні, спагадлівасці, пачуцця ўласнай годнасці. Арыгінальнай пластычнай выразнасцю ў абмалёўцы сваёй ролі вылучаецца малады акцёр М. Сцешыц (Сабака з залатым зубам). Большую псіхалагічную выразнасць хацелася б убачыць у ігры В. Багушэвіча (дзед Язэп). Надзвычай цяжкая задача ў выканаўцы галоўнай ролі С. Бачкова (маёр Козлікаў). Я ўжо адзначаў, што драматургу ўдалося выпісаць надзіва каларытны тыпаж нашага сучасніка, у якога за душой ужо нічога святога не засталося. Пакуль жа С. Бачкоў някепска перадае адну рысу характару свайго героя — абсалютную страту сумлення. Ахвотна, хоць і аднастайна акцёр дэманструе і тое, што ягоны герой увесь час жлукціць, хлебча, смокча самагонку. Але сутнасць вобраза, створанага драматургам, значна глыбейшая. Мне здаецца, вобраз Козлікава пасапраўднаму трагічны. Але пакуль тэатры (у Мінску і Слоніме) адкрылі толькі першы яго пласт.

Спектакль няроўны, гэта відавочна. Хоць мэты сваёй, як мне падалося, ён дасягае. Спектакль цешыць гледача, але і трывожыць, і абуджае думкі, сумненні: што ж такое з намі адбылося, што адбываецца, калі ў душах папялішчы, а замест сэрцаў халодныя камені?..

**Рычард СМОЛЬСКІ.**

---

**ЗНАЁМСТВА**

# Збіраем лаўры...



Новы лаўрэат — Ірына ЮРКОЎСКАЯ.

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў галоўнай мэтай для прафесуры й педагогаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі ды музычнай школы пры ёй (цяпер ліцэя) было выхаванне лаўрэатаў усесаюзных або міжнародных конкурсаў. Але хоць і былі ў рэспубліцы таленавітыя маладыя музыканты, прабіцца праз конкурснае сіта Масквы, якая адбірала кандыдатаў для ўдзелу ў міжнародных конкурсах, было амаль немагчыма.

Толькі цяпер, калі Беларусь атрымала незалежнасць і магчымасць самастойна выходзіць на міжнародныя спаборніцтвы музыкантаў, калі ў Міністэрства культуры рэспублікі з'явілася сякая-такая валюта, шанцаў у патэнцыяльных нашых лаўрэатаў пабольшала. Гэты год — сапраўды залаты для беларускага выканальніцкага мастацтва: як з рогу пасыпаліся лаўрэацкія ўзнагароды беларускім удзельнікам шматлікіх міжнародных конкурсаў. Вось толькі пералік. Першае і другое месцы на радыёконкурсе «Канцэрціна Прага» занялі вучні Музычнага ліцэя пры БДК віяланчэліст М. Самсонаў (педагог У. Перлін) і піяніст А. Паначэўны (клас Л. Шаламенцавай), той жа А. Паначэўны стаў лаўрэатам І Міжнароднага юнацкага конкурсу імя Ф. Шапэна ў Маскве. Адкрыццём таго конкурсу, як адзначыў прафесар Маскоўскай кансерваторыі С. Дарэнскі, сталася выступленне яшчэ аднаго вучня ліцэя — І. Сяргея (пед. Н. Ташчыліна). Лаўрэатам вельмі складанага конкурсу імя І.-С. Баха вярнулася ў Мінск выпускніца Музычнага ліцэя А. Мяцельская, таксама вучаніца Н. Ташчылінай. А поспехі Д. Марозава (вучань прафесара В. Рахленкі), які атрымаў спецыяльны прыз за артыстычнасць на Міжнародным конкурсе імя Чурлёніса ў Вільні ды 3-е месца на Рэспубліканскім конкурсе піяністаў!

Нарэшце, зусім нядаўна мы даведаліся пра вялікую перамогу маладой беларускай піяністкі І. Юркоўскай, якая заваявала 3-е месца і прэмію 4 тыс. долараў на XX Міжнародным конкурсе імя Алесандра Касаграндэ ў г. Тэрні (Італія). У конкурсе ўдзельнічала 60 музыкантаў з 18 краін свету, у фінальным туры іх засталося толькі два: В. Ягорава, студэнтка Маскоўскай кансерваторыі, якая заняла 1-е месца, ды І. Юркоўская, выпускніца БДК, — яна стала лаўрэатам 3-й прэміі (2-е месца не прысуджалася).

Імя І. Юркоўскай вядомае ў музычных колах рэспублікі з 1980 г., калі яна перамагла (разам з А. Сікорскім) у конкурсе навучэнцаў музычных вучылішчаў. Тады яна займалася ў Гомельскім МВ. Напружаная вучоба ў кансерваторыі, а потым у аспірантуры ў выдатнага педагога, высокаадукаванага музыканта В. Рахленкі, паспрыяла развіццю І. Юркоўскай у сталую яркую выканаўцу са сваім непаўторным светапоглядам. Ірына — творчая асоба з шырокім колам інтарэсаў. Нейкі час пасля заканчэння аспірантуры яна займалася на аддзяленні спеваў у класе Л. Каспорскай, мае прыемнае сапрана, нават працавала ў Мінскім камерным хоры — як канцэртмайстар і як харыстка. Але праблемы з прапіскай, з жытлом прымусілі І. Юркоўскую часова пакінуць Беларусь: цяпер яна працуе ў Польшчы.

Выступленне маладой беларускай піяністкі на складаным конкурсе ў Італіі мела вялікі поспех у слухачоў і журы. Акрамя прэміі, яна атрымала падарунак — відэакасету з надпісам «Грацыя, Ірына». Для ўсіх гэта было адкрыццём і новага музыканта, і невядомай дагэтуль Беларусі. У лютым 1993 г. Ірына запрошана з канцэртамі па Італіі як лаўрэат конкурсу.

**Вера ЛАГВІНЕНКА.**

АДРАДЖЭННЕ

# Сільвестр КОСАЎ: ПОГЛЯД ЗБЛІЗКУ

У ВЫДАВЕЦТВЕ «Беларуская энцыклапедыя» рыхтуецца да друку шасцітомны біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», які павінен найбольш поўна асвятліць інфармацыйныя звесткі пра не толькі ўласна беларускіх пісьменнікаў, але і тых, чые творчасць і лёс так ці інакш звязаны з Беларуссю. Сярод іх рэлігійны дзеяч XVII стагоддзя беларускі пісьменнік Сільвестр Косаў.

Біяграфічныя звесткі пра яго даволі скупыя. Вядома, што С. Косаў нарадзіўся на сумежжы XVI—XVII стагоддзяў у праваслаўнай шляхетнай сям'і. Набыўшы пачатковую адукацыю ў Вільні, ён навучаўся далей у Любліне ў езуіцкай калегіі і Замойсцкай акадэміі ў Польшчы. Вярнуўшыся ў Вільню, распачаў педагагічную дзейнасць. Выкладаў з 1628 года ў Львоўскай праваслаўнай брацкай школе, адкуль яго ўзяў у 1631 годзе тагачасны Кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла ў Кіеў. У Кіеве С. Косаў стаў прэфектам калегіі, дзе вёў курс рыторыкі. У 1634 годзе быў прызначаны электам (памочнікам) пры праваслаўным біскупе Іосіфе Бобрыкавічы, з-за хваробы якога фактычна выконваў яго абавязкі, і пасля смерці Бобрыкавіча ў наступным годзе заняў пасаду біскупа Беларускага (Мсціслаўская, Аршанская і Магілёўская біскупія). Пасля смерці Пятра Магілы ў 1647 годзе С. Косаў стаў праваслаўным Кіеўскім мітрапалітам. Памёр у 1657 годзе.

Пяру С. Косава належаць некалькі твораў на старапольскай і старабеларускай мовах, чатыры з якіх ён надрукаваў. Першы твор «Херувім...» («Cherubin przy akcie...»), напісаны па-польску, быў выданнем надмагільнага слова памяці нябожчыка Іосіфа Бобрыкавіча — папярэдніка Косава на біскупскай кафедры, пры яго пахаванні. «Экзегезіс...» («Exegesis...») з'явіўся ў абарону заснаваных Пятром Магілам школ, у адной з якіх працаваў С. Косаў, дзе выкладалі новыя дысцыпліны, што раней у праваслаўных вучэльнях не практыкаваліся. Аўтар выступіў супраць абвінавачанняў у «ерасі схізмацкай» да арыянства — аднаго з напрамкаў пратэстантызму як каталікоў і уніятаў, так і мала асвечанага праваслаўнага казацтва. Ён засяродзіў увагу на адрозненні праваслаўя і арыянства, а таксама паведаміў аб гістарычных падзеях, што адбываліся пры адкрыцці Кіеўскай калегіі.

У аснове «Дыдаскаліі» (назва кнігі паходзіць з старажытнагрэчаскай мовы — выкладанне, навучанне) С. Косаў паклаў асноўныя палажэнні хрысціянскага веравучэння аб сямі таемствах з пункту гледжання праваслаўнай царквы. Растлумачваючы хрысціянскія таемствы праваслаўнага веравызначэння, ён расказвае пра сэнс абрадавых дзеянняў, як паводзіць сябе духоўным і цывільным людзям паводле выпрацаваных тлумачэнняў гэтых таемстваў.

З літаратурнай спадчыны С. Косава вылучаецца твор «Патэрыкон» («Paterikon, albo zywoty ss. Oycow Pieczarskih...») — зборнік апавяданняў пра жыццё манахаў Кіева-Пячэрскага манастыра і іх галоўнай святыні — царквы Успення Багародзіцы, які склаўся ў дваццатыя гады XIII стагоддзя. С. Косаў пераклаў са старажытнаславянскай на старапольскую мову і першым надрукаваў самы каштоўны помнік агіяграфічнай літаратуры так званага перыяду Кіеўскай Русі, са сваімі заўвагамі, каментарыем, дапаўненнямі, дадаткамі, прадмовай і пасляслоўем. Друкуючы «Патэрыкон», ён змяніў цэласнасць ранейшых рукапісных рэдакцый «Кіева-Пячэрскага Пацярыка», увёў новую стылістычна-рытарычную форму, змяніўшы адпаведна патрэбам свайго часу ідэйны сэнс асобных жыццёпісанняў Кіева-Пячэрскіх святых.

Разам з тым, дагэтуль не высветлены дакладны час і месца нараджэння С. Косава. Ва ўсіх біябібліяграфічных слоўніках, энцыклапедычных даведніках, літаратуразнаўчых, гістарычных і багаслоўскіх працах і даследаваннях, якія закранаюць яго дзейнасць, прыводзяцца розныя звесткі пра яго радзіму.

У першых польскамоўных даследаваннях Ігнація Сцябельскага і Міхала Вішнеўскага па праблемах старажытнай літаратуры Вялікага княства Літоўскага паведамлялася, што пісьменнік нарадзіўся на Віцебшчыне (Сцябельскі І. Два вялікіх святла на гарызонце Полацкім. Вільня, 1783; 2-е выд. Львоў, 1866. С. XXXIV; Вішнеўскі М. Гісторыя польскай літаратуры. Варшава, 1851, т. VIII. с. 270). У пазнейшых дарэвалюцыйных працах па гісторыі ўсходнеславянскіх і польскай літаратур, гісторыі праваслаўнай царквы на тэрыторыі Беларусі і Украіны ўжо больш падрабязна даваліся звесткі, што радзіма С. Косава — Жыровічы (Жыровіцы) пад Віцебскам (Белявский Н. Р. Сильвестр Коссов — митрополит Киевский) (Литовские епархиальные ведомости. Вильно, 1872. 7. с. 245), адкуль і пайшло гэтае паведамленне ў многія даследаванні і даведнікі да сучаснасці (Українські письменники. Біо-бібліографічний словник. Київ, 1960. т. 1. с. 385; Ісіченко Ю. А. Киево-Печерський патерик в историко-літературному процесі кінця XVI — початку XVII ст. на Україні. Київ, 1990. с. 59).

Іншыя даследчыкі, удаючыся ў падрабязнасці біяграфіі С. Косава, жыццё якога праходзіла ў асноўным на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, у Кіеве, «удакладнілі» месца яго нараджэння. Паколькі Жыровічаў пад Віцебскам не існавала, памылкова радзіму пісьменніка перамясцілі пад Слонім, дзе яны і знаходзяцца. (Лужны Р. Косаў Сільвестр) (Польскі слоўнік біяграфічны. Вроцлаў — Варшава — Кракаў, 1969. т. XIV (3, в. 62. с. 325). Версія нараджэння С. Косава ў Жыровічах (Слонімскіх) была абгрунтавана тым, што гэтае месца — духоўны цэнтр Беларусі — магло паўплываць на выбар жыццёвага лёсу юнака, і сам Сільвестр з цягам часу стаў духоўнай асобай. Пра гэтае ж месца гаворыцца ў апошніх беларускіх і крыніцах і даследаваннях (Коршунаў А. Ф. Косаў Сільвестр) (Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мінск, 1986. т. 3. с. 111; Голенченко Г. Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XV — середине XVII в. Минск, 1989. с. 134). Тым больш, што не так далёка ад Жыровічаў ёсць мястэчка Косава, якое можна атаясаміць з прозвішчам пісьменніка, бо, паводле еўрапейскай традыцыі, ад назвы мясцовасці часта паходзіла і прозвішча роду.

Жыровічаў на Віцебшчыне сапраўды ніколі не было, але ж недалёка ад Віцебска, у сучасным Шумілінскім раёне існуе хутар з падобнай назвай — Жаробычы (Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мінск, 1977. с. 140). Розніца ў назве з Жыровічамі ў дзвюх-трох літарах пры розным напісанні на польскай, беларускай і расійскай мовах. У польскім «Слоўніку геаграфічным» пры аглядзе Віцебскіх зямель пра гэтыя Жаробычы (Żerobycze, Żerebycze) акрамя месца размяшчэння — у 48-мі вёрстах ад Віцебска, межах вёскі, паведамлення аб знаходжанні ў ёй будынка праваслаўнай царквы св. Іллі, сказана яшчэ аб тым, што гэтае месца было ўласнасцю Косавых (Геаграфічны слоўнік польскіх зямель, выданы пад рэд. Браніслава Хлябоўскага. Варшава, 1895. т. XIV. с. 768).

І ўжо больш дакладныя звесткі, якія пацвярджаюць гэтую сапраўдную радзіму пісьменніка, змяшчаюцца ў «Гісторыка-юрыдычных матэрыялах Віцебскай і Магілёўскай губерніі». У актах, выбраных з кніг Віцебскага магістрата, згадваецца пра адзін дакумент, што на той час знаходзіўся ў Полацкай Духоўнай кансісторыі. У ім ішла гаворка пра судовую справу уніяцкага Полацкага архібіскупа Антонія Сялявы супраць праваслаўнага Магілёўскага біскупа Сільвестра Косава і яго брата Юрыя Косава. І для пакрыцця выдаткаў «прыцягваліся да адказнасці іх (Косавых) вотчынныя маёнткі Жаробычы, Будавесць і інш., а таксама зямельны ўчастак Даўгалінскі ў Рускім пасадзе» (Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Витебск, 1989. Вып. 19. с. 67—68). Гэтая маёмасць, сказана там, братам Косавым перайшла ад іх бацькі Адама Грыгор'евіча.

Іншыя дакументы, змешчаныя ў «Гісторыка-юрыдычных матэрыялах», пацвярджаюць уласнасць Косавых на гэтую маёмасць — Жаробычы, Будавесць, а таксама на навакольныя вёскі Непароты, Голедзь і інш. (Там жа. Вып. 21. с. 497—500; Вып. 22. с. 443; Вып. 26. с. 97). Даты ў гэтых дакументах канца XVI — сярэдзіны XVII ст. якраз супадаюць з часам жыцця пісьменніка.

Такім чынам, вёска Жаробычы Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці можа лічыцца дакладным месцам нараджэння беларускага пісьменніка XVII ст. Сільвестра Косава.

**Ігар ВОЙНІЧ,**
**аспірант кафедры беларускай літаратуры філфака Белдзяржуніверсітэта.**

**Марцін КОЎЗІК**

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Гэта пра цябе, мая дзяржава, кажуць: між Масквою і Варшавай. Крыўдна, але так яно было, наша шчасце міма нас плыло. Колькі Беларусь свайго пасеяла між Літвою, Польшчаю, Расеяю, а слыла ўскраінаю, сходнямі, крэсамі — усходнімі, заходнімі. Нічыё цяпер мы перадполле, дай, Гасподзь, уласную нам долю!**

●

**Гістарычная памяць пагасла, змяніліся людзі і норавы, не злічыць на Беларусі калгасаў імя Аляксандра Суворава. Колькі ж спатрэбіцца часу — беларускага, не маскоўскага — наб з'явіліся калгасы імя Кастуся Каліноўскага? Можа, з бегам часу? І зусім ужо не калгасы?**

●

**Распачаў Маякоўскі, а тады і іншыя сталі ў патрыятычным парыве шукаць рыфмы на «Сталін». Паступова праслаўляць рабога зрабілася абавязковым. Ад кожнага паэта-грамадзяніна патрабавалі аддаваць даніну. Во была жудасная пара, ніякага прагалу, Сталін не паміраў, а рыфм ужо не хапала.**

●

**Мы паедзем, дарагая, павышаць культуру, ну а бульбу хай капае з Мінска прафесура.**

●

**Скуль тыя выкрыкі істэрычныя, усплёскі бадзёрасці ненатуральныя? З веры, што з'езды ў нас гістарычныя, а Генеральныя — геніяльныя.**

●

**Нейкая латвійская фірма распаўсюджвае латарэйныя білеты «60 тысяч за 25 рублёў». Яно б нічога, калі ёсць ахвотнікі купляць, бо дзе шалі, там і шэльмы, а дзе шэльмы, там і абэлтухі. Але ж латарэя носіць назву «Чарнобыль», фірме яна прынесла мільённыя прыбыткі, а ахвяры Чарнобыля не атрымалі нічога. Чужая бяда — не гора, ды ці адны рыжсція шэльмы грэюць рукі ля атамнага вогнішча?**

●

**У гігантаў трэнер нарлік? Ні ў якім разе! Ён — нармальны чалавек, яны даўгавязыя.**

●

**Па тэлебачанні паказвалі, як кандыдат тэхнічных навук выклікае дух Скарыны. «Спытайце, — папрасіў каментатар, — ці падабаюцца яму перадачы Беларускага тэлебачання». «Очень», — адказаў Скарына.**

●

**Вокны Фонду культуры зеўраць, як амбразуры. З даўніх яшчэ пор руіны страляюць ва ўпор. Метка стралок цэліць, ды не прабіць цытадэлі. Мала з пальбы толку, плача дзесь перапёлка.**

●

**Як лічыць яго — адзінкай ці нулём: скончыў школу для крэцінаў з медалём.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 27.08.92 у 18.10**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

**Індэкс 63856**
**Тыраж 18068**

**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**